# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 19

двухтыднёвая часопісь
для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ
І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932

ГОД ВЫДАНЬНЯ 4



# У майстэрні

ВЕРШ І МАЛЮНАК ДЗЯТКОРА М. КАЛАЧЫНСКАГА

Звоняць пілкі—чак-чак-чак!
Тут унукі Ільліча
Дошкі, палачкі габлююць,
Рэчы розныя майструюць.
А таксама шмат машын
Змайстравалі малышы.
Тут працуе наш атрад
Піанэраў, акцябрат.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

I. КАГАНОЎСКАЯ

# Гультаі

Васіль. Я хачу быць інжынэрам. Буду рабіць самалёты, розныя машыны.

Алена. А я хачу быць доктарам. Буду лячыць хворых дзяцей.

Мікола. А я толькі настаўнікам буду. Усіх няграматных навучу.

Слава. А я хачу быць электраманцёрам. Буду электрычнасьць праводзіць у кватэры.

Кім. А я—краўцом. Буду для ўсіх вопратку шыць.

А раніцай, калі маці ці бацька будзяць іх у школу ісьці, дык вось аб чым дзеці гавораць:

Васіль. Я яшчэ трошкі паляжу, дарма што спазьнюся ў школу.

Алена. Надаела кожны дзень у школу хадзіць. Лепей-бы пабегаць. А ў школе вучыцца трэба.

Мікола. І хто гэта выдумаў школы? Калі-б іх ня было—ня трэба было-б раніцай сьпяшацца на заняткі.

Слава. Не пайду сёньня ў школу. Настаўніца зробіць вымову, што непадрыхтавала заданьняў.

Кім. Скарэй-бы вырасьці вялікім, каб у школу не хадзіць.

А цяпер падумайце, дзеці, ці вывучыцца хто з такіх школьнікаў на інжынэра, на доктара, на настаўніка, на краўца, на электраманцёра, калі так будуць старацца вучыцца.

А ХТО З ВАС, ДЗЕЦІ, ПАДОБЕН НА ІХ?

# АКЦЯБРАТЫ

ВЕРШ ДЗЯТКОРА Я. ХОМЧАНКІ

Ля шчыкетаў струхнелых, паломаных
Забаўлялася наша дзятва.
Замест цацак—гнілая салома,
Замест гульняў—тут бойка была.
Па каменьнях калечылі ногі,
Выбівалі у вокнах шкло;
У сады пракладалі дарогі,—
Гэтак часта з малымі было.



А зараз жывуць вось ня гэтак
Калгасьнікаў нашых сыны.
Усе дзеці цяпер—акцябраты,
І ў садзе дзіцячым яны.
Прыходзяць ад самага ранку
Вучыцца сюды, майстраваць.
Тут цацкі, тут пілкі, рубанкі,
Тут весела дзецям гуляць.

МАЛЮНКІ Ц. КІПНІСА



# ХАТНІЯ ВОРАГІ

**Штодня ў рэдакцыю прыходзіць многа лістоў: прысылаюць іх дзяткоры з розных гарадоў, калгасаў, вёсак у сваю часопісь.**

**Разам з другімі лістамі дзяткораў рэдакцыя атрымала калектыўны ліст ад вучняў Гаранскай школы. Яны назвалі ліст „Хатнія ворагі“ і просяць, каб канешне надрукавалі ў часопісі. Вось пачытайце, што яны пішуць.**

Як толькі пайшлі мы вучыцца, дык ад першага дня ўзяліся за чыстату. Вельмі-ж наш настаўнік акуратны і страшэнна ня любіць брудных вучняў. А тут, як на тое, прышоў Цімка Грышкавых з запэцканым тварам, а рукі чорныя—усе ў гразі.

Тады наш настаўнік, Ігнат Мікалаевіч, і кажа:

— Калі такія брудныя вучні будуць у школу прыходзіць, дык да канца навучальнага году палавіна вучняў захварэе і заняткі прыдзецца спыніць. Вы ведаеце,— пытае Ігнат Мікалаевіч у нас,— ад чаго захворваюць дзеці і нават дарослыя на каросту?



Глядзім мы адзін на другога, маўчым. Тады ўсхапіўся Міколка з другой групы (ён у нас вельмі баявы) і кажа:

— Заражаюцца ад хворых.

— Правільна,—ківае галавою настаўнік. — Але-ж ведайце і тое, што ня ўсе заражаюцца ад хворых. У другіх кароста сама зьяўляецца ад бруду.

Пачырванеў Цімка, глянуўшы на свае рукі. Здагадаўся, чаму сьвярбіць яму між пальцаў.


*Жалезка.*

Настаўнік падышоў бліжэй да Цімкі, глянуў—маленькія пухіркі на Цімкавых руках ёсьць.

— Ну вось бачыце, у Цімкі кароста. Сходзі да доктара, — гаворыць настаўнік,—вазьмі ў яго лякарства і змазвай рукі. Сьцеражэцеся цяпер, дзеці, каб вы не заразіліся — ня вітайцеся за рукі, бо гэта перадае заразу, — параіў нам Ігнат Мікалаевіч.

А Грышка, член санітарнай камісіі, прапанаваў:

— Сходзім да Цімкі на кватэру, паглядзім, як жывуць у іх дома.

— Правільна,—падхапілі вучні.

Пайшлі мы ўтраіх пасьля заняткаў да Цімкі і вот паслухайце, што мы ўбачылі.

Ні маты, ні жалезка на ганку ў іх няма. Хацелі чаравікі ад гразі ачысьціць, дык няма як. А зрабіць мату вельмі проста. Трэба ўзяць тоненькіх яловых галінах і сплесьці іх, як паказана на малюнку. Работы мала, а карысьць вялікая—у хату гразь не наносіцца. Забрудзіцца мата—прамый чысьценька вадою і зноў палажы на ганак. А жалезка яшчэ лягчэй зрабіць—прыбі яго на ганку і ачышчай падэшвы абутку, не насі гразі ў хату.


*Так трэба зрабіць мату.*

У хаце яшчэ большы непарадак мы ўбачылі. Цімкаў бацька Тодар ляжаў на ложку і моцна кашляў. Адкашляўшыся, ён плёваў на падлогу. На яго выплюнутую сьліну



*Бацька ляжаў на ложку і моцна кашляў.*

садзіліся мухі, тараканы, ступалі босымі нагамі людзі!

Разгледзеў доктар праз мікраскоп Тодараву сьліну і кажа:

— Сухоты ў Тодара. Трэба сьцерагчыся не пляваць абы дзе,—сьліна перадае заразу.

Мы дамагліся, каб у Тодаравай хаце была плявальніца з апілкамі, ці з пяском, як і ў нашай школе. Кожны няхай плюе не на падлогу, а ў плявальніцу.

У гэты час, пакуль мы гаварылі з дзядзькам Тодарам, дык блохі напалі на Таню Антосеву. Яна была без панчох — у сандалях толькі. Глядзіць, а на нагах яе аж чорна блох.

— Адкуль яны ўзяліся тут?—зьдзівілася Таня.

— Вельмі проста—ад бруду. Больш як тры тыдні ня мылі падлогу ў хаце, у кутку ляжала сьмецьце, валяліся розныя лахманы. А блохам гэта і трэба. Для іх чым брудней у хаце, тым лепей.

А што трэба рабіць, каб зьнішчыць блох?

— Вымятаць чыста хату і выносіць сьмецьце, як найчасьцей мыць падлогу гарачай вадою, выбіваць на дварэ пыл з пасьцелі і мэблі, замазаць шчыліны ў сьценах, ня кідаць вопратку на падлогу, ня трымаць розных непатрэбных лахманоў, бруднай бялізны ў хаце.

А вось што мы раім другім вучням, іх бацьком для зьнішчэньня тараканоў. Гэта мы на ўласным вопыце пераканаліся, як зьнішчалі іх у дзядзькі Тодара. А тут іх была процьма. Поўзаюць па сьцяне, ядуць хлеб, бульбу, заразу разносяць, кусаюцца, спаць не даюць.

Вазьмеце шклянку гарачай вады і ўсыпце туды ложку цукру і адну ложку буры, або тры ложкі борнай кіслаты (усё гэта можна дастаць у аптэцы). Намачэце хлеб і палажэце яго есьці тараканом. Ад гэтага хлеба тараканы загінуць. Шчыліны ў сьценах замажце глінаю з вапнай, а хату ўзімку вымаразьце.

Калі ў далейшым будзеце акуратна сачыць, каб было чыста, дык тараканы ніколі больш ня зьявяцца ў вашай хаце.

А цяпер пра клапоў.

Трэба ведаць, што хлапы холаду не баяцца. А зьнішчаць іх трэба вось як: змазаць усе месцы, дзе водзяцца клапы, газаю (карасінаю) і абварыць кіпнем. Шчыліны абавязкова замажце глінаю — клапом ня будзе прытулку.

І яшчэ некалькі слоў пра галоўнага ворага людзей, што разносіць заразу ад чалавека на чалавека, — пра вош.

Зьнішчаць вошы трэба такім спосабам:

— У шклянку, або кубак налейце пароўну газы і алею. Зьмяшайце алей і газу.




Гэтай мешанінай намажце нанач галаву і завяжэце хустку. Раніцаю галаву пачашэце густым грэбенем. Грэбень змочвайце моцным воцатам.



Тады гніды адваляцца ад валасоў. А лепш за ўсё — акуратна стрыгчы валасы нулявой машынкай.

Бялізну, у якой сустракаюцца вошы, трэба вывarваць у кіпені.

Трымайце ў чыстаце галаву, цела, пасьцель, кватэру і вы ніколі ня будзеце пакутваць ад вошай.

Часьцей трэба хадзіць у лазьню і насіць чыстую бялізну.

Калі лазьні ў вёсцы няма, дык мыйцеся часьцей дома гарачай вадою з мылам.

На гэты раз мы канчаем.

Другім разам мы напішам больш аб нашым змаганьні за чыстату. А цяпер вы надрукуйце наш ліст, каб другія вучні ведалі, як трэба змагацца з брудам, з паразытамі—нашымі ворагамі.

Вучні Гаранскай школы:
**Грышка Лісун,**
**Таня Якубовіч,**
**Марыля Крук.**

# ЯК ФРЭНКІ СТАЎ ПІАНЭРАМ





Фрэнкі Хаўкінс быў, як і заўсёды, са сваёю скрынкаю ў гэтую суботу. Пасьля школы ён бегаў па вуліцах, чысьціў боты. Грошы ён зарабляў мізэрныя, але-ж для сям'і гэта была вялікая падтрымка. Вось ужо год як бацька яго без работы.

Сёньня Фрэнкі не пашанцавала.

— Пачысьціць, містэр! [1]) Чыстка — лепшай ня трэба! Усяго нікель [2]) каштаваць будзе! — запрашаў ён багата адзетых людзей. Але тыя нават і не глядзелі на Фрэнкі.

Белая дубінка палісмэна штурханула ў плячо хлопчыка.
— Прэч адсюль, нэгр! — забурчаў палісмэн, і Фрэнкі пацягнуўся далей са сваёю скрынкай.

Фрэнкі не шанцавала. Ён стаў перад вітрынай. У яго была любімая гульня, яна называлася „Хачу не хачу“. Ён глядзеў на розныя рэчы ў магазыне і выбіраў, што ён купіў-бы, а што не.

---

[1]) Тлумачэньне гэтага слова і іншых, адзначаных лічбамі, дадзена ў канцы апавяданьня.

— Я хачу гэты мячык. Не хачу таго гальштука. Хачу вунь тыя канькі. Гэтага капялюша не хачу, а вунь тую рубашку хачу.

У Фрэнкі часьцей выходзіла „хачу“, але сыну рабочага, ды яшчэ нэгру, ніколі ня мець хоць-бы адну з гэтых рэчаў. Пакуль ён заглядаўся так у вакно магазына, на 7-й авэню [3]) пачуўся гул барабана.

— Эге, мусіць, парад! — крыкнуў Фрэнкі і памчаўся туды.

Ён загадзя думаў, што ўбачыць там шарэнгі palісмэнаў у прыгожых вопратках, з блішчастымі гузікамі. Але нічога такога ён ня ўбачыў. Людзі ішлі па чатыры ў рад—белыя і нэгры, мужчыны і жанчыны. Наперадзе красаваўся чырвоны плякат. Яго несьлі белы і нэгр.

— Што за дзіва?—зацікавіўся Фрэнкі.—Белыя разам з нэграмі? Але Фрэнкі няма калі доўга думаць. Ён глядзіць уважліва, каб нічога не прапусьціць.

— Эге, вунь ідуць малыя. Зноў нэгры разам з белымі.

Перад вачыма Фрэнкі мільгаюць словы плякатаў:

**„Выратуем дзевяць нэгрыцянскіх рабочых“.**

**„Чорныя і белыя рабочыя, злучайцеся“.**

Упяршыню Фрэнкі чуе, каб белыя абараnялі нэгра.

Малыя з радоў крычаць:

— Дзеці рабочых; далучайцеся да дэмонстрацыі! Дапамагайце выратаваць нэграў ад пакараньня. Да нас сюды!

У Фрэнкі заблішчалі вочы. Ён праціснуўся наперад і апынуўся сярод дзяцей. Ён стараўся з усяе сілы ісьці ў ногу. Сьпераду чуў песьню, але ня мог разабраць слоў.

Першай загаварыла дзяўчынка, што ішла поплеч з ім.

— Змарыўся?—запытала яна.

Фрэнкі матнуў галавой.

— Ніколечкі.

Дзяўчынка сказала:

— Праз некалькі кварталаў мы спынімся, будзе мітынг.

— Чаму будзе мітынг?—запытаў Фрэнкі.

— А з тае прычыны, што хочуць пакараць на электрычным крэсьле дзевяць маладых нэграў з штату [4]) Альбама. Яны шукалі работы, але ўрад буржуяў кажа, што яны зьняважылі дваіх белых жанчын. Гэта хлусьня. Ім трэба адвесьці гнеў галодных рабочых ў другі бок. Гэта лінчаваньне [5]), якое прыкрываецца судом.

Пры слове лінчаваньне Фрэнкі раптам закалаціўся. Ён успомніў як гадоў чатыры таму назад, калі яны жылі яшчэ ў Караліне, бацька прыбег вечарам дадому. Ён быў спалоханы. Скоранька запёр дзьверы. Пагасіў лямпу. Загадаў, каб усе сядзелі ціха. Тады яны пачулі знадворку крык натоўпу людзей.

— Лінчаваць яго! Лінчаваць яго!! Лінчаваць!!!

— Гэта яны не за мною гоняцца. Гэта за бедным Джымам Элліс.

Джым хацеў, каб гаспадар заплаціў яму што належыць за работу. Цяпер яны заб'юць Джыма.



— *Пачысьціць, містэр!—запрашаў ён багата адзетых людзей.*



*Фрэнкі апынуўся сярод дзяцей.*

Скора крыкі заціхлі, але Фрэнкі ніколі не забудзешча таго часу.

— Чым-жа мы ім паможам? — запытаўся Фрэнкі ў дзяўчынкі.

— Мы зьбяром грошы, ноймем лепшых адвакатаў,— адказвала яна.—Але самае важнае — гэта паказаць, што ўсе рабочыя, белыя і чорныя, супроць гэтай кары. Тады яны, буржуі, не адважацца расправіцца з нэграмі.

— Я магу памагчы вам?—запытаўся ў яе Фрэнкі.

— Можаш. Мы парашылі сабраць 50 тысяч подпісаў рабочых дзяцей з патрабаваньнем вызваліць нэграў. Ты можаш зьбіраць подпісы.

— Я буду зьбіраць—сказаў Фрэнкі цьвёрда,—я хачу быць з вамі. Але я ня ведаю, хто вы?

Дзяўчынка ўсьміхнулася.

— Мы — юныя піанэры Амэрыкі. Мы арганізуем у свае атрады ўсіх рабочых дзяцей—белых і чорных.

Дэманстрацыя павярнула за вугал.

Цяпер Фрэнкі чуў словы песьні, бо яна расла—усе рады яе падхоплівалі. І ў вушох чорнага хлопчыка радасна і грозна пераліваліся словы:

„Паўстань, пракляцьцем катаваны, паўстань, хто з голаду век пух...“

(З амэрыканскай часопісі „Новы піанэр“).

## ЯКІХ СЛОЎ ТЫ НЕ ЗРАЗУМЕЎ

[1]) **Містэр**—пан, ягомасьць.

[2]) **Нікель**—дробная манэта.

[3]) **Авеню**—вуліца ў Нью-Ёрку.

[4]) **Штат**—самастойная вобласьць.

[5]) **Лінчаваньне**—страшны звычай белых амэрыканцаў. Паводле гэтага звычаю нэгра могуць забіць бяз суда, калі белы абвінаваціць яго ў зьнявазе. Звычай захаваўся яшчэ са старых часоў, калі нэгры былі поўнымі нявольнікамі, прадаваліся як жывёла...

Багатыя знарок нацкоўваюць белых, нават працоўных на нэграў. Гэта робіцца імі для таго, каб адцягнуць увагу працоўных ад іх ворага—буржуя і памешчыка.

# Наша Газэта

## РЫХТУЕМСЯ ДА КАСТРЫЧНІКА

**Сёлета ўсе працоўныя нашага Саюзу і працоўныя замежных краін будуць сьвяткаваць 15-ую гадавіну Кастрычніка.**

**Да сьвята Кастрычніка пачала рыхтавацца і наша школа. У дні сьвята мы наладжваем вечар. На вечар запросім і сваіх бацькоў.**

**Драматычны гурток рыхтуе п'еску, дэклямацыі. Лепшыя вучні раскажуць, як яны вучацца. Настаўнік зробіць даклад аб гадавіне Кастрычніка.**

**Рыхтуем і іншыя выступленьні. Напрыклад, дагаварыліся, каб калгасьнік Прахор, чырвоны партызан, расказаў нам пра мінулыя дні, пра змаганьне за ўладу саветаў. А старшыня калгасу абяцае расказаць, як некалі жылі і вучыліся дзеці.**



## НОВАЯ ШКОЛА

*Раней, да рэвалюцыі, у нашай вёсцы ня было школы. Тады ніхто і ня вучыўся. Зараз мы вучымся ў звычайнай хаце. Тут цесна, няма дзе павярнуцца.*

*Гэтым летам пачалі будаваць у нашым калгасе новую школу. Вялікую, прасторную, з асобнымі пакоямі для кожнай групы.*

*Да пачатку заняткаў школа ня была яшчэ гатовай. Зараз калгасьнікі далі нам абяцаньне скончыць школу да сьвята Кастрычніка, каб у новай школе адсьвяткаваць вялікую гадавіну.*

*Спадзяемся, што к сьвяту наш калгас будзе мець яшчэ адно вялікае дасягненьне — новую школу.* **В. Ліхачоўскі.**

Вялікае сьвята вітаць мы павінны добрай вучобай і дысцыплінай!



# СПАЗЬНІЎСЯ КРЫШКУ...

*Вучань 3-й групы Грышка часта позьніцца на заняткі. Пазаўчора спазьніўся на цэлыя дзьве гадзіны. Кажа: „праспаў“. Грышка зрывае нам спаборніцтва з другой групай.*

**Вось і скончаны заняткі.**
**Дзеці ўсе бягуць дахаты.**
**Бачаць: Грышка іх страчае,—**
**Гэта ў школу ён шагае.**
**— Ты куды? — пытаюць дзеці.**
**— Вось прагульшчык—**
**паглядзеце!**
**І адказвае ім Грышка:**
**— Я, відаць, спазьніўся**
**крышку...**



# Я АБЯЦАЮ

*У сваёй групе я вучылася аднэй з горшых. Магла-б вучыцца многа лепш. Але ленавалася.*

*Нядаўна на зборы акцябрат аб гэтым гаварылі. Да мяне далучылі лепшага вучня Кандрацёню, каб памагаў.*

*Я абяцаю, што да сьвята Кастрычніка наганю прапушчанае. Буду старацца добра вучыцца.*

**М. Галаскок.**

# Тры браты

С. ПРЭАБРАЖЭНСКІ
МАЛЮНКІ Р А Н А

*Гэты верш, а таксама і іншыя матар'ялы (песьня, гульня, п'еска) скарыстайце ў час сьвяткаваньня 15 гадавіны Кастрычніка на ранішніках і вечарох.*





**В а ж а т ы**
(*дэклямуе*)

Ўсё гуляе меншы брат,
Знае ён пакуль нямнога
Хоць малы,—ў дзіцячы сад
Цьвёрда вывучыў дарогу.

Рад пабегаць, пагуляць
Ён з сябрамі ў перагонкі.
Паспрабуйце адгадаць,
Хто брат мешы?

**У с е.**

Акцябронак!

**В а ж а т ы.**

Брат сярэдні з кніжкай дружыць.

І яго атрад паслаў,
Каб у вольныя гадзіны
Акцябратам памагаў.

Носіць гальштук ён
чырвоны,
Ў школе вучыцца цяпер.
Адгадайце-ж, дзеці, хто ён,
Брат сярэдні?

**У с е.**

Піанэр!

**В а ж а т ы.**

Брат старэйшы на заводзе
Лепшы лічыцца ўдарнік.
Як дадому ён прыходзіць,
Дык ня траціць часу
марна:

Кніжкі розныя, газэты
Кожны вечар брат чытае,
Альбо ў ціры часам гэтым
Без прамаху ў цэль
страляе.

Ён—сярэдняму важаты
І ў атрадзе, і у школе.
Адгадайце-ж, як завецца
Брат старэйшы?..

**У с е.**

Камсамолец!





# Што такое топінамбур?

Так называецца земляная груша. Расьце яна ў нашых садох, гародах, парках, як дзікая расьліна. Сьцябло яе крыху падобна на сланэчнік, а клубні—на бульбу.

Земляная груша вельмі карысная расьліна. Заграніцай яе разводзяць ужо даўно.

Што дае топінамбур?

Высокае густое сьцябло земляной грушы ідзе на сілос. Сілос атрымліваецца вельмі добры. Яго ахвотна ядуць каровы.

Клубні гэтай расьліны можна есьці, як бульбу.

З гэтых-жа клубняў топінамбура гоняць сьпірт, патрэбны пры вырабе штучнай рызіны.

Заграніцай з клубняў топінамбура робяць вельмі салодкі цукар.

Земляная груша зусім не пераробліваая расьліна. Яна расьце ўсюды, абы толькі не ў балоце.

Садзіць земляную грушу трэба так, як бульбу, толькі ўвосень, у сярэдзіне кастрычніка месяца. Для насеньня трэба накапаць клубняў дзікай грушы.

Кожная школа павінна разводзіць земляную грушу, вывучаць яе, праводзіць вопыты, дапамагаць калгасам у гэтай рабоце.

# ВАЙСКОВАЯ ГУЛЬНЯ

**Словы песьні—В. МАЯКОЎСКАГА**
**музыка — М. РАЎХВЭРГЕРА.**

У гэтую гульню можна гуляць дзе лепш выпадае: у хаце і на дварэ, у школе і дзіцячым садзе. Гульня гэта вайсковая. І гуляюць у яе з песьняй. А песьня гэта вось якая:




Гэтую песьню ведаюць усе піанэры. Папрасеце іх, яны вас навучаць.

Дастаньце сабе кожны па невялічкай палцы, — гэта будуць стрэльбы.

Цяпер глядзеце, як гульня пачынаецца. Бачыце, як гэтыя дзеці стаяць? Сьпераду высокія, а малыя—ззаду.

Пастроіліся. Збоку—важаты. Важатага дзеці самі выбралі. Засьпявалі песьню і пайшлі.

**Калі вайна-мяцеліца**
**Пачне шугаць,**
**Павінны ўмець мы цэліцца,**
**Умець страляць. Эх!**
**Раз! Два! Ўсе ў рад!**
**Шагай, атрад!**





Хто з вас бачыў, як цэляцца чырвонаармейцы? Цэліцца трэба так.

Пры словах „павінны ўмець мы цэліцца“, — спынімся адразу і, як чырвонаармейцы, прыцэлімся.

Раз!

А важаты зноў засьпявае, і ўсе—за ім.

**Як толькі рушаць арміі**
**На ворага у бой,**
**Мы пойдзем санітарамі**
**Ў вайсковы строй. Эх!**
**Раз! Два! Усе ў рад!**
**Шагай атрад!**

А гэта—разьведка. Ціха-ціха крадуцца разьведчыкі, каб вораг не пачуў. Хаваюцца па дарозе — хто за што: за сьцяну, за вугал, за дровы і г. д.

Потым усе сьпяваюць:

**І будзем мы за ворагам**
**Дзень—ноч сачыць.**
**Яму ад нас у споплаху**
**Не ўцячы. Эх!**
**Раз! Два! Усе ў рад!**
**Шагай, атрад!**





А гэта хто—санітары? Вы іх ведаеце, дзеці? Вось што робяць санітары.

Паспрабуем і мы: возьмем палкі, як насілкі, і пойдзем, нібы параненых людзей на іх нясём.

Тут важаты выскачыў на сярэдзіну двара і крыкнуў:

— Да мяне!

Хто з дзяцей першы да яго падбяжыць — становіцца важатым.

Зьбегліся дзеці, пастроіліся. Ідуць з новым важатым і сьпяваюць:

**Блішчаць вінтоўкі новыя,**
**На іх—сьцяжкі.**
**Мы з песьняй у стралковыя**
**Ідзем гурткі. Эх!**
**Раз-два! Усе ў рад!**
**Шагай, атрад!**






АПАВЯДАНЬНЕ П. РУНЦА
МАЛЮНКІ ІЗМАЙЛАВА

## I

Грышку толькі 9 год.

І за гэтыя 9 год ніводнага разу ня быў ён у вялікім горадзе. Бацька часта апавядаў яму пра гарадзкія дзівы. Слухаў Грышка, і яшчэ мацней хацелася самому пагледзець на горад.

— Татка, вазьмеце мяне ў Менск,—часта прасіўся ён.

— Не выпадае, другім разам вазьму, — заўжды адказваў бацька.

Грышка крыўдзіўся, але нічога ня зробіш.

А сёньня бацька зноў едзе на калгасны базар і бярэ з сабой яго. Грышкавай радасьці ня было канцакраю. Нават і ўстаў ён раней за ўсіх. Баяўся, каб не праспаць. Маці зьдзівілася:

— Чаго ты, сынок, устаў так рана? Спаў-бы яшчэ.

— Не хачу, выспаўся,—адказваў Грышка, а потым дадаў:



— Ведаю вас. Хочаце, каб і сёньня дома застаўся.

Ён борзда ўсхапіўся і пачаў мыцца.

Пасьнедаўшы, тры калгасныя падводы павезьлі ў горад прадаваць рабочым гародніну, малако, яйкі і інш. прадукты.

На аднэй з іх гордым арлом сядзеў Грышка.

II

У горадзе Грышку ўсё здавалася нязвычайным. Вуліцы шырокія, брукаваныя, не такія, як у іхным калгасе — вузкія, нямошчаныя. Наабапал безьліч слупоў, а на слупох сотні тэлефонных дратоў у розных напрамках. А дамы, дамы! Ён толькі на малюнках бачыў такія. Па два, тры, чатыры паверхі. А новы будуюць аж на дзесяць паверхаў. І дзівіцца Грышка, як гэта не абернецца такая камяніца.

— Гэта новая камяніца — Дом ураду, — тлумачыў бацька. — Тут зьмесьцяцца ўсе вышэйшыя цэнтральныя ўстановы.

Фабрычныя коміны, здавалася Грышку, упіраліся аж у самыя воблакі. Бяз шуму прабег каля падводы блішчасты

аўтамабіль. З тарахценьнем прамчаліся два грузавікі, нагружаныя бочкамі. Насустрач імчыцца яшчэ адзін. Блізка ад падвод задняе кола грузавіка трапіла на камень, што ляжаў на бруку. Грузавік падскочыў і з яго звалілася некалькі кавалкаў чагосьці чорнага і блішчастага Грышка борзда скокнуў з воза і, азіраючыся па баках, схапіў самы большы кавалак.

— Тата! Паглядзеце, які харошы чорны камень,— крыкнуў ён бацьку.

— Гэта каменны вугаль,—растлумачыў бацька.

— Куды яго павезьлі?

— На фабрыку.

— Нашто?—зноў запытаў Грышка.

— Супакойся, назола, няма калі,—спыніў бацька,— а пасьля спакойна дадаў: — схавай у воз, дома раскажу.

Яны ўзьяжджалі на вялізны пляц, увесь устаўлены падводамі.

III

Грышка ўжо некалькі раз прабаваў якасьць каменнага вугалю. Чорны, цьвёрды як камень, бліскучы, нібы яго хто наваксаваў. Складзены з асобных пласточкаў. Прыткнуў к запаленай сярнічцы—не гарыць. Схапіў яго — гарачы Дзіўна!

— Татка, вы казалі ў горадзе, што каменны вугаль— добры апал, а я паліў, дык не гарыць, — запытаўся Грышка.

— Гэта, сынок, самы лепшы сорт каменнага вугалю. Завуць яго антрацыт. І гарыць ён бяз полымя. Дае шмат цяплыні. Больш за самыя лепшыя дровы.

— А ім хаты апальваюць?

— Ня толькі хаты... Ім апальваюць заводы, фабрыкі паравозы на чыгунках, параходы, электрастанцыі,—тлумачыў бацька, а Грышка ўважліва слухаў.



— Дык яго шмат трэба?—зноў запытаў Грышка.

— Але, сынок. За тое-ж яго шмат і здабываюць. Мільёны тон штогодна.

— А ці шмат яго ў нашай краіне?

— Ой шмат, сынку. Вялікія паклады яго ў Данбасе, у Сібіры каля гор. Кузьнецку, каля Масквы...

І яшчэ Грышка даведаўся ад бацькі, што з каменнага вугалю здабываецца шмат карысных рэчаў: друкарская фарба, сьвяцільны газ, выбуховыя матэрыі і інш. А таксама без каменнага вугалю нельга было-б здабыць ні чыгуну, ні жалеза, ні сталі.

Грышка бачыў вугаль з дроў. Ён чорны, але не такі, ня блішчыць і мяккі. А гэты і разьбіць яму цяжка. І завуць каменны. І Грышка запытаў:

— Татка, гэты вугаль з каменю?

— Не, сынок, ня з каменю.

— Дык з чаго-ж?

— Кажуць, з дрэва. Але я добра ня ведаю. Запытайся лепей у настаўніка, ён табе раскажа.

Грышка парашыў даведацца і пра гэта.

## IV

Калі настаўнік скончыў гутарку, з-за парты падняўся Грышка і запытаў:

— Васіль Пятровіч, раскажэце, як утварыўся каменны вугаль?

Настаўнік глянуў на гадзіньнік, крыху падумаў і сказаў:

— Мала часу, дык я коратка. Каменны вугаль утварыўся з дрэва.

Цяпер наша краіна багатая лесам, а дзесяткі і сотні тысяч гадоў лясоў было ў некалькі разоў больш. Вялізарныя пушчы цягнуліся на дзесяткі тысяч кілёмэтраў. І лясы гэтыя былі непраходныя. У іх расьлі дрэвы не падобныя на нашы цяперашнія. Высачэзная дрэвавідная папараць, хвошч і інш. ім падобныя дрэвы займалі вялізарныя плошчы.

Людзей ня было. Ня было каму лясоў секчы. Дрэвы расьлі, старэлі, абвальваліся. Часта буры крышылі лес на вялікіх плошчах. Падаючы, ствалы дрэў глыбока ўядаліся ў балотны грунт. Танулі. Заплывалі гразёю. Зьверху пасяляліся новыя расьліны. Пахаваныя ў балоце, дрэвы заносіліся зямлёю, якая прыносілася вадою ўвесну і ў час дажджоў з палёў...

У зямлі амаль няма паветра. І дрэвы згнісьці не маглі. Адбываўся працэс накшталт тленьня. Дрэва абвуглівалася... Асобныя часткі зьлежваліся, спрасоўваліся пад вялікім цяжарам верхняга пласта зямлі, ператвараючыся

ў цьвёрдую камяністую пароду. І гэта паўтаралася не адзін раз... Утварылася некалькі пластоў... Сапраўдны каменны вугаль заўсёды ляжыць пластамі, перамешаны пластамі зямлі.

Прайшлі тысячы вякоў. Пасяліліся людзі. На месцы лясоў зрабілі палеткі. Дасьледуючы земныя нетры, яны дакапаліся да каменнага вугалю. Вывучаючы яго, людзі даведаліся, што самы лепшы вугаль і самы старэйшы — антрацыт. Самы маладзейшы — буры вугаль. Дастаючы буры вугаль з зямлі, людзі знаходзілі ў ім рэшткі тых дрэў, а часта цэлыя пні, з якіх ён утварыўся.

Гэта зьяўляецца яскравым доказам таго, пра што мы казалі,—што каменны вугаль утварыўся з дрэва.

# Зрабі сам



**Разрэж чатырохкутнік, як паказана па малюнку кропкамі.**

**Цяпер з усіх шасьці частак—трохкутнікаў злажы зорку.**

**Як злажыць зорку—глядзі малюнак.**

---

**З гэтым нумарам падпішчыкі часопісі „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ атрымліваюць дармовы дадатак п'еску**

**„ДЗЬВЕ ШКОЛЫ“**

# Чырвоны кастрычнік










Бі ў барабаны! Бі!
Звонка у трубы трубеце,—
Заклік, запал малады
Сьвету старому нясеце!

Слухай, працоўны народ,
Волат краін буржуазных:
Мы ўсе пятнаццаты год
Крочым уперад адважна.

Стройся ў рады, піанэр!
Песьні бадзёрыя чуеш?
То пралетар СССР
Чырвоны Кастрычнік
сьвяткуе.

Захад вітае ўсіх нас —
Шахты, заводы, калгасы.
Дзеці працоўных мы мас,
Дзеці вялікага часу.

— Гэй, піанэр ўсіх краёў,
Чуеш братэрскія словы?
Гэй, піанэр, будзь гатоў!
— Чую. Я заўжды гатовы!

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА
А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2463. 5.900 экз. Уп. Галоўлітбелу № 5.

